© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 7 (886) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 18 ЛЮТАГА 1973 г. ЦАНА 60 гр.





## Аддаў людзям Сусвет

*Грамадскасць нашай краіны і свет урачыста адзначаюць дзень 19 лютага 1973 года — 500-ую гадавіну з дня нараджэння вялікага польскага астранома Мікалая Каперніка. Днямі наш журналіст наведаў Астранамічную абсерваторыю Варшаўскага універсітэта і правёў размову з яе навуковым працаўніком доктарам Марцінам Кубякам.*

«НІВА»: Свае навуковыя адкрыцці Мікалай Капернік абвясціў амаль 500 год таму назад. Ад таго часу чалавецтва зрабіла велізарны крок наперад у пазнанні таямніц Сусвету. Якое значэнне для нашай цяперашняй астраноміі маюць навуковыя даследаванні вялікага польскага вучонага з XVI стагоддзя?

Др М. КУБЯК: Значэнне вялікае і ў сферычнай астраноміі, якая даследуе палажэнне і рух нябесных целаў, і ў астрафізіцы, што займаецца вывучэннем складу і будовы гэтых целаў, іх фізічных і хімічных уласцівасцей. Але перш за ўсё найбольшае значэнне маюць адкрыцці Каперніка ў сэнсе філасофскім. Да яго часоў, як вядома, людзі таксама цікавіліся планетамі, зоркамі, Сусветам. Аднак мелі іх вобраз, сфармуляваны старажытным астраномам з II стагоддзя нашай эры Пталемеем. Паводле яго геацэнтрычнай сістэмы нерухомая Зямля знаходзіцца ў цэнтры свету, а ўсе нябесныя свяцілы кружаць вакол яе. Усё, што па-за Зямлёй, абсалютна недаступна жывому чалавеку, яно падпарадкавана не правам прыроды, але боскім законам. Капернік жа, прапануючы сваю геліяцэнтрычную сістэму, першы ўказаў на поўнае адзінства правоў прыроды ва ўсім Сусвеце. Пры гэтым ён сфармуляваў вобраз Сусвету вельмі блізкім да сапраўднага. Такім чынам, тэорыя польскага вучонага адкрывала доступ жывому чалавеку да пазнання таямніц Сусвету, давала людзям права яго дас-

*(Працяг на стар. 3)*




**МІКАЛАЙ КАПЕРНІК. Паводле копіі аўтапартрэта, выкананай у Торуні ў XVI стагоддзі.**

## БГКТ хроніка

■ 31 студзеня на сваім чарговым пасяджэнні Прэзідыум ГП БГКТ абмеркаваў і зацвердзіў: а) справаздачу аб выкананні бюджэту, прызначанага на 1972 год, б) план зместу календара на 1974 год (рэдактарам будзе Аляксандр Баршчэўскі), в) справаздачу аб выкарыстанні касцюмаў, музычных інструментаў і рознага абсталявання ў паасобных аддзелах, г) «Рэгулямін» рэвізійных камісіяў БГКТ.

■ 3 лютага ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку адбыўся конкурс на беларускую песню. Прыняло ў ім удзел толькі двое салістаў і два дуэты. Сола спявалі Марыся Пракапюк і Барыс Младзяноўскі. Дуэты — Марыся Пракапюк і Зіна Нікалаюк, Яўгенія і Ірэна Ігнацюк.

■ З прычыны арганізацыйных недахопаў сакольскага аддзела БГКТ мала асоб прыбыло на конкурс беларускай песні ў вёску Астровак (4 лютага). Выступілі там: Кастусь Малішэўскі з Сухініч, Бажэна Грыко і Анна Борыс з Саколкі. Прыбыўшыя на конкурс Ніна Цыванюк і Ніна Мушынская з Гарадка выканалі некалькі беларускіх песень для прысутных.

■ На высокім узроўні 4 лютага прайшоў конкурс на беларускую песню ў Гайнаўцы, арганізатарам якога быў аддзел БГКТ і аддзел культуры ПРН. Сярод салістаў былі прызнаны два першыя месцы: Аляксандру Бандаруку з Ляўкова і Анне Стахвіюк з Трасцянкі. Другое месца журы прызнала Нэле Харкевіч з Ласінкі, а трэцяе — Юрку Харкевічу з Ляшукоў. Добра выступалі таксама Зіна Вішнеўская з мясцовага беларускага ліцэя і Марыся Свентахоўская з Трывежы. Сярод вакальных калектываў першае месца заняў секстэт з Белавежы, гэта былі: Язэп Дмахоўскі, Славамір Шпаковіч, Віталіс Шпак, Здзіслаў Сава, Віктар Мерынг і Уладзімір Сікорскі. Квінтэт з беларускага ліцэя заняў другое месца. У склад яго ўваходзяць: Галіна Кердэлевіч, Ірэна Шыманюк, Галіна Конах, Надзя Казачук і Люба Секан. Трэцяе месца прызнана дуэту — Аліцыі Грыгарук і Галене Кошэль з беларускага ліцэя. Высокую ацэнку журы прызнала фальклорнаму вакальнаму калектыву з Арэшкава, які складаецца з наступных асоб: Веры Кошэль, Анны Парфенюк, Веры Хамацюк, Марысі Сцепанюк, Надзі Паўлючук, Ніны Аверчук і Таццяны Гурын. Вышэй спамянутыя салісты і вакальныя калектывы прымуць удзел у фінальным конкурсе «Беларуская песня — 73» у Беластоку. Многа апладысментаў атрымалі таксама: дуэт з Трывежы Ольгі і Марысі Свентахоўскіх, дуэт з Сухавольцаў Таісы Якубоўскай і Барбары Нігарэвіч, трыё з Грабаўца: Надзя Леонюк, Галіна Краўчук і Ліда Гаўрылюк. Па-за конкурсам выступілі сола Галіна Беглюк і Ірэна Назарук з пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы і Славамір Харкевіч з Лукі. Акампаніявалі выступаючым Эліза Кшэўская і Аляксандр Лукашук. Вялі конкурс Зіна Лукша і Валянціна Панфілюк. Выступаў з прывітальным словам і ўручыў ўзнагароды старшыня аддзела Аляксандр Іванюк. Галоўнае праўленне прадстаўляў старшыня ГП Мікалай Самоцік.

(мх)

## Лес і людзі

Каля паваленых механічнай пілой векавых сосен тупаюць людзі і снуецца пахучы блакітна-белы дымок. Лясное жніво. Праз некалькі тыдняў тут, каля вёскі Бахуры, дзе шумеў меднастволы бор, па гладкаму полю прывольна будзе гуляць завея-віхура, а набесну ў баразнах-шнурах зазеляняюць кволенькія парасткі маладых саджанцаў. Новае жніво на гэтым месцы збярэ праз якія сотню-паўтараста год ужо трэцяе або чацвёртае пакаленне нашчадкаў цяперашніх лесарубаў з Шымкаў, Луплянкі, Падазеран, Бахуроў. Многае ў прыродзе змяніў чалавек, паскорыў. Лес жа ў найменшай меры паддаўся цяперашняй нашай, людской, пагоні за часам. Гонкая сасна ці небасяжны дуб патрабуюць спрыяльнай глебы, ласкавага сонца, а можа нават і вятроў-валацугаў ды раптоўных навальніц з грымотамі і перш за ўсё — цэлых стагоддзяў часу, каб іх жылы маглі напоўніцца жывічнымі сокамі і камель патаўсцець ды зазвінець, як меднагучны звон.

— Люблю я працу ў лесе, — прызнаецца Мікалай Бобрыкаў, ляснічы з лясніцтва Цісоўка, што ў Беластоцкім павеце. — Лес вельмі беражліва ўшаноўвае стваральную дзейнасць чалавека. Вось хоць бы, для прыкладу, хвойнічак, які мне давялося садзіць пятнаццаць год таму, калі я, адразу пасля заканчэння Ляснога тэхнікума ў Белавежы, прыйшоў сюды працаваць, стаў ужо мажным лесам. Цяпер у ім дзеці з навакольных вёсак грыбы збіраюць! Або лясныя звяры. Пасля вайны браканьеры петлямі ды стрэламі з «абрэзаў» усё начыста выглумілі. А потым яшчэ плойма лісаў развялася, дзе якое зверaня ці птушаня паявілася — усё выдушылі. Сярод іх эпідэмія шаленства пайшла. Трэба было страляць ды труціць, бо не толькі іншым лясным звярам, але і людзям небяспека пагражала. А цяпер у нашым лесе колькасць зайцаў, казуль, цецерукоў падвоілася. Дзікі сталі часцей заглядаць. Нават лосі тут развяліся. Наткнуўся я раз ва ўрочышчы Рукаў, што ля рэчкі Калоны, на цялятка ласінае. Ляжыць яно ў траве, на мяне даверліва паглядае, не ўцякае. Пагладзіў я яго, палюбаваўся, на маленства гледзячы. Нядаўна ж сустрэўся са старым лосем. Прыгажосць і веліч якая! Зусім зблізку, бо з якіх дзесяці метраў, я да яго прыглядаўся. І вельмі ж дзівуюся ўсім паляўнічым, як у іх на такую красу рука падымаецца?..

— І ўсё ж людзі палююць?!

— Так, палююць. Гурток паляўнічых «Фасты» тут ужо трох лосяў упаляваў, а іншай меншай звярыны — не злічыць. Але браканьеры ў нас перавяліся. Зрэдку толькі здараецца натрапіць на пятлю на зайцоў. Горш, калі чалавека ў пятлі напаткаеш...

— Ну, што вы ?..

— А так... Тры гады таму гэта было, а і цяпер перад маімі вачыма ўсё ў дробязях стаіць. Лета. Гадзіна недзе першая-другая пасля поўдня. Ідзем мы з гаёвым Буйкам вызначаць межы вырубкі на будучы год. Кругом сасновы бор, толькі нізам разгалістыя елкі ды яловец. Раптам бачу — за елкай чалавек стаіць. Думаю: затаіўся нехта, настрашыць нас хоча. Шапчу Буйку: «Глядзі, стаіць хтосьці... Нават у чорных рукавічках». Гукнулі мы — не адзываецца. Падыйшлі бліжэй — ён на галіне на рамяні вісіць. Адзенне ад дажджоў ды сонца зусім выблякла, а твар і рукі чорныя, мухамі ды птушкамі раз'едзеныя... Буйка і кажа: «То ж гэта, мусіць, той хлопец, што пасля забавы ў Рыбаках недзе прапаў...» Ведаеце, цела на мне пахаладзела, а шапка на ўздыбленых валасах паднялася. Я ж наогул вісельца першы раз бачу, а тут вісіць жа гэты хлопец у лесе больш месяца. Шукалі ж яго дзесяткі людзей, паўпавета за тыдзень пeратрэслі, а ён... Пабеглі мы хутчэй званіць у міліцыю — веры не даюць. Прыехалі, даследуюць, сотні людзей збеглася. Страшна...

Маўчым. За акном леснічоўкі глуха і аднастайна шуміць лес. Змяркаецца. І мне і ляснічаму здаецца, што між дрэў мільгануў нейкі цень. Сочым за ім і супакойваемся: гэта рабочыя ідуць з вырубкі.

— Так, лес не змяняецца, а вось людзі — мяняюцца, — перарывае ў задуме нашае маўчанне ляснічы. — Возьмем хоць бы гадоў таму дванаццаць—трынаццаць. Прыносіць мне аднойчы лістаноша ананімнае пісьмо. Патайны прыяцель лесу паведамляў у ім, што ў Шымках тры чалавекі, узброеныя абрэзамі, збіраюцца ехаць лес рабаваць. Склікаў я пару гаёвых, і, прыхваціўшы нашы службовыя пукаўкі-кабэкаэсы, пайшлі мы на шашу, дзе можна было перапыніць злачынцаў. Ляжым. Чакаем. Нідзе ні гуку. Перамёрзлі і ўжо дамоў ісці хацелі. Раптам чуем — едуць. Падпусцілі зусім блізка. Выскачылі: «Стой!». Фуру, заладаваную бяр-

*Працяг на стар. 4*

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### НА АВЕНЮ КЛЕБЕР

У Доме міжнародных канферэнцый на авеню Клебер адбылася сустрэча прадстаўнікоў Часовага рэвалюцыйнага ўрада Рэспублікі Паўднёвага В'етнама і сайгонскай адміністрацыі. Мэта гэтай сустрэчы — абмеркаваць умовы пачатку ў бліжэйшы час кансультацый паміж двума паўднёвав'етнамскімі бакамі, прадугледжаных пагадненнем аб спыненні вайны і аднаўленні міру ў В'етнаме.

### МАТЭРЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

Усеагульная канфедэрацыя працы Францыі прыняла рашэнне разгарнуць у краіне кампанію на аказанне матэрыяльнай дапамогі в'етнамскаму народу. На фабрыках і прадпрыемствах будзе праведзены тыдзень збору сродкаў. Гэтыя сродкі будуць напраўлены федэрацыі прафсаюзаў В'етнама.

### МАКАРЫАС ЗНОЎ ПРЭЗІДЭНТ

У 12 гадзін 30 мінут 8 лютага гэтага года ў спіску кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Кіпр было толькі адно прозвішча — Макарыаса. Такім чынам, згодна з канстытуцыяй, без правядзення выбараў, вызначаных на 18 лютага, Макарыас аб'яўлены на трэці пяцігадовы тэрмін галавой дзяржавы.

### ПАСТАЎКІ ЧЫГУНАЧНАГА САСТАВА

За апошнія гады ГДР стала адным з найбуйнейшых пастаўшчыкаў чыгуначнага рухомага састава для сацыялістычных краін. Напрыклад, звыш 40 тысяч пасажырскіх вагонаў і вагонаў-рэфрыжэратараў курсіруюць цяпер на сталёвых магістралях Савецкага Саюза. Да канца 1975 года ў Савецкі Саюз будзе адпраўлена яшчэ 9 тысяч такіх вагонаў.

### ПА САВЕЦКАЙ ЛІЦЭНЗІІ

Больш як 100 тысяч кіламетраў па розных дарогах Чэхаславакіі прайшоў грузавік з шынамі са сталёвым кордам, выробленымі па савецкай ліцэнзіі.

Выпрабаванні, якія закончыліся паспяхова, паказалі шэраг пераваг новых шын. Яны даюць магчымасць лепш кіраваць машынай, намнога больш эканамічныя ў эксплуатацыі, зніжаюць выдаткаванне гаручага на 12—15 працэнтаў.

### ЗАЯВА Ў СУВЯЗІ З ВЫБАРАМІ

Палітбюро Французскай кампартыі апублікавала заяву аб маючых адбыцца ў сакавіку парламенцкіх выбарах у краіне. У заяве падкрэсліваецца, што сумесная праграма левых сіл прадугледжвае паляпшэнне ўмоў жыцця працоўных, правядзенне новай палітыкі сацыяльнага прагрэсу і дэмакратыі, незалежнасці і міру.

### ЗМЕНЫ Ў САСТАВЕ КАБІНЕТА

Прэм'ер-міністр Індыі Індзіра Гандзі зрабіла некаторыя змены ў саставе кабінета міністраў краіны. У прыватнасці, былы міністр грамадскіх работ і жыллёвага будаўніцтва атрымаў пасаду міністра ўнутраных спраў. Ва ўрадзе зроблена таксама шэраг іншых перастановак.

### БЕСПРАЦОЎНЫЯ

Колькасць беспрацоўных у Канадзе ў студзені склала 688 тыс. чалавек. Беспрацоўе ахоплівае тут 7 прац. працаздольнага насельніцтва краіны. (ак)



## БССР

### НЕВЯДОМЫ РУКАПІС М. БАГДАНОВІЧА

Максім Багдановіч, побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам, самы выдатны класік беларускай паэзіі. Дык кожны новы, невядомы дагэтуль твор, напісаны рукой паэта, выклікае вялікае зацікаўленне ў беларускіх літаратуразнаўцаў.

Вядома было, што ў красавіку 1913 года М. Багдановіч паслаў славутаму рускаму філолагу-лінгвісту і літаратуразнаўцы Фёдару Я. Коршу віншаванні з нагоды яго 70-годдзя. Аднак тэксту гэтых віншаванняў даследчыкі не ведалі. І вось нядаўна, як падае «Літаратура і мастацтва» ад 2 лютага 1973 года, кандыдату філалагічных навук І. Саламевічу ўдалося гэты аўтограф знайсці ў аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна ў Маскве (фонд 465). Даследчыку шмат дапамаглі супрацоўнікі гэтага аддзела.

Багдановічаўскі аўтограф напісаны на беларускай мове, чорным чарнілам, прыгожым роўным почыркам. Газета цытуе поўны яго тэкст. Шкада, што не змяшчае яна фотакопіі рукапісу.

### ЗА ПРЫНЦЫПОВУЮ КРЫТЫКУ

Адбыўся сумесны адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў Беларусі і Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі Навук БССР.

Гутарка ішла аб заданнях літаратурнай і мастацкай крытыкі. Указвалася, што адно з важнейшых яе заданняў — распрацоўка своеасаблівасці сённяшняга этапа ў развіцці сацыялістычнага рэалізму.

Падобная праблема разглядалася таксама на нарадзе галоўных рэдактараў цэнтральных рэспубліканскіх літаратурна-мастацкіх часопісаў і газет, якая адбылася нядаўна ў Маскве.

Гутарка аб прынцыповасці крытыкі праводзіцца ў сувязі з мінулагодняй Пастановай ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».

### БЕЛАРУСКІЯ ГАДЗІННІКІ

Біяграфія Мінскага гадзіннікавага завода пачынаецца ў 1953 годзе. Самым масавым відам прадукцыі завода з'яўляецца цяпер жаночы наручны гадзіннік «Прамень—1800» на 16 рубінавых каменнях. Прыгожае афармленне, невысокая цана забяспечваюць значны попыт на яго ў Савецкім Саюзе і ў іншых краінах, у тым ліку і ў нас, у Польшчы.

У мінулым годзе канструктары завода выпусцілі доследную партыю наручных мужчынскіх электронна-механічных гадзіннікаў «Прамень—3045». Іх арыгінальнасць у тым, што атрымоўваюць яны ход ад мініяцюрнай батарэйкі напружаннем у 1,35 вольта. Ад адной такой батарэйкі гадзіннік устойліва працуе цэлы год.

### ФЕРМА-АЎТАМАТ

У калгасе «Авангард» Гродзенскага раёна пачала працаваць жывёлагадоўчая ферма-аўтамат. 930 кароў, размешчаных у 14 радах, за 16 мінут атрымоўваюць аўтаматычна ўсе неабходныя кармы. Гэтай фермай з цэнтральнага пульта кіруе адзін аператар. За 1973 год калгас «Авангард» даставіць дзяржаве 18 тон мяса. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

9 лютага адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім была прынята праграма паляпшэння ўмоў для развіцця навукі і тэхнікі да 1975 года, ставіліся праблемы забеспячэння сельскай гаспадаркі новымі машынамі, між іншым, камбайнам да капання бульбы, быў прыняты праект пастановы ў справе пабудовы цэнтральнага вакзала ПКП у Варшаве і на заканчэнне пасяджэння Прэзідыум урада знаёміўся з інфармацыямі Міністэрства мясцовай гаспадаркі і аховы асяроддзя адносна будавання больш функцыянальных жылых кватэр.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

8 лютага адбылося пасяджэнне Рады Дзяржавы, якое прысвячалася справе ратыфікацыі дагавору між Польшчай і Савецкім Саюзам адносна замежнай чыгуначнай камунікацыі і ратыфікацыі кансулярных канвенцыяў між Польшчай і Балгарыяй, а таксама між Польшчай і Чэхаславакіяй.

### ПЛЕНАРНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ВК ПАРП У КРАКАВЕ

7 лютага адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі ў Кракаве, на якім былі абмеркаваны важнейшыя праблемы дзейнасці ваяводскай партыйнай арганізацыі ў гэтым годзе. У пасяджэнні прымаў удзел сакратар ЦК ПАРП Е. Лукашэвіч. Атрыманыя ў мінулым годзе высокія прадукцыйныя вынікі, як адзначалася на пасяджэнні ВК ПАРП, былі дасягнуты дзякуючы паспяховаму выкарыстанню прадукцыйных ініцыятываў, а таксама добрай ідэалагічна-палітычнай працы.

### СУСТРЭЧА Ў Э. ГЕРКА

8 лютага I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу са старшынёю камітэта экспертаў для апрацоўкі рапарту аб справах асветы ў Польшчы праф. др Я. Шчэпанскага, які праінфармаваў I сакратара ЦК аб заканчэнні работы камітэта і ўручыў апрацаваны рапарт. У дыскусіі старшыня камітэта знаёміў з прапановамі адносна змен у сістэме асветы і адукацыі.

### НАРАДА МАЛАДЗЁЖНАГА АКТЫВУ

7 лютага адбылася краёвая нарада маладзёжнага актыву. Прымаў у ёй удзел I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і іншыя прадстаўнікі партыйных, дзяржаўных і адміністрацыйных улад. На нарадзе абмяркоўваліся, між іншым, справы стварэння федэрацыі маладзёжных арганізацый. Стварэнне федэрацыі дазволіць лепш канцэнтраваць ідэйна-выхаваўчую працу сярод моладзі. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### I САКРАТАР ЦК КП ЛІТВЫ Ў БЕЛАСТОКУ

З візітам дружбы прыязджаў на Беласточчыну I сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Літвы Антанас Снечкус. З ім былі: сакратар ЦК КПЛ Рынгаўдас Сангайла і кіраўнік аддзела ЦК КПЛ Фелікс Струмілас.

Літоўскія таварышы прыехалі па запрашэнню кіраўніцтва Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку і былі госцьмі I сакратара ВК. Наведалі яны галоўныя беластоцкія прадпрыемствы. Вельмі сардэчна прынялі літоўскіх гасцей рабочыя Фастаў — бавоўнянага камбіната ў Беластоку. Госці цікавіліся сельскай гаспадаркай Беласточчыны.

«Газета Беластоцкая» апублікавала артыкул I сакратара ЦК КП Літвы Антанаса Снечкуса пад загалоўкам «Моцныя асновы нязломнай дружбы».

### ЧАРГОВЫЯ ПАРТЫЙНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

Ідзе справаздачна-выбарная кампанія ў партыі. Чарговыя павятовыя справаздачна-выбарныя канферэнцыі на Беласточчыне адбыліся ў Ломжы, Гайнаўцы, Граеве, Сувалках, Сямяцічах, Замброве, Высокім Мазавецкім.

### ЗЛЁТ ПЕРАДАВІКОЎ ПРАЦЫ БУДАЎНІЦТВА

400 удзельнікаў — найлепшых рабочых беластоцкіх будаўнічых прадпрыемстваў прыняло ўдзел у I злёце перадавікоў будаўніцтва. Прысутнічаў таксама I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП З. Куроўскі. Удзельнікі ўмуравалі сімвалічны краевугольны камень для новага жыллёвага квартала — Цэнтр II, які будзе вырастаць вакол даўнейшага Сеннага рынку.

Многія ўдзельнікі злёту атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды, адзнакі «Заслужаны Беласточчыне» і адзнакі «Перадавіка сацыялістычнай працы».

Удзельнікі злёту перадалі I сакратару З. Куроўскаму ліст з сваімі новымі абавязацельствамі, а таксама звярнуліся з заклікам да ўсіх рабочых, каб выканаць і перавыканаць планы года.

### ПРЭМ'ЕРА «ТРЫБУНАЛУ» Ў БЕЛАСТОКУ

З выпадку юбілею 50-годдзя СССР Беластоцкі дзяржаўны тэатр імя А. Вянгеркі паставіў п'есу вядомага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка «Трыбунал». На прэм'еры прысутнічаў I сакратар пасольства СССР у Варшаве. Пастаноўка п'есы вельмі добрая. Вельмі спадабалася гледачам. Дасканала былі выкананы ролі Цярэшкі (Вітальд Галонзка) і Паліны (Марыя Хадэцкая). (вл)

---

**Галоўнаму рэдактару «Нівы» і намесніку старшыні ГП БГКТ**

**ГЕОРГІЮ ВАЛКАВЫЦКАМУ**

**шчыры жаль і смутак з прычыны смерці**

**БАЦЬКІ**

**выказваюць усе супрацоўнікі «Нівы» і Галоўнага праўлення БГКТ.**

---




**Niedziela 18.II.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy". 8.20 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Piórkiem i węglem". 11.45 Dziennik. 12.00 „Przemiany". 12.30 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 14.40 Dla dzieci: L. J. Kern — „Bardzo dziwne zakupy" („Karampuk") cz. III. 15.10 „Warszawa—Moskwa" — teleturniej. 16.05 „Wszystko za wszystko". 17.15 „Kryteria". 17.25 Program estradowy z okazji V Zjazdu ZMS. 18.25 „Doktor Mikołaj" — widowisko o M. Koperniku. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zemsta" — film TVP („Chłopi") odc. XIII — ostatni. 20.55 PKF. 21.05 Studio Rondo przedstawia: „Gwiazdy siedmiu stolic" — głos ma Praha". 22.15 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 19.II.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Mikołaj Kopernik — kronika życia" — film pop. naukowy. 20.35 Teatr TV: Ingmar Bergman — „Kłamstwo". 21.55 „Wiatr wśród liści, krzyk ptaka..." — recital fortepianowy Bronisława Kowalli.

**Wtorek 20.II.**

9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — Z. Krasiński — „Nieboska komedia" cz. I. 10.40 „Zemsta" — film TVP („Chłopi") odc. XIII — ostatni. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — Z. Skowroński „Dekret". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.55 „Podyskutujmy" — Film — fikcja czy obraz życia. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Polityka dla wszystkich. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Marzenia miłosne" — film fab. węg.-radz. cz. II. 21.15 „Lubin" — program dok. 21.45 „Kwiaty Aten" — program rozr. grecki. 22.10 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.40 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 23.15 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin.

**Środa 21.II.**

9.40 „Marzenia miłosne" — film fab. węg.-radz. cz. II. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Złoty wiek Cesarstwa". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Energetyczne skutki prądu". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: J. Porazińska — „Baśń o Kopciuszku". 17.10 Film. 17.25 PKF. 17.35 „Informacje. Towary, Propozycje". 17.55 „Sylwetki X Muzy" — Urszula Modrzyńska. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Postawy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M: Żuławski — „Babie lato" („Opowieści mojej żony"). 20.20 „Marynarzyk" — film franc. („Szpieg cesarza") odc. II. 21.15 „Świat i Polska". 22.00 „Artyści, których podziwiamy" — Antoni Majak. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 22.II.**

8.00 „Marynarzyk" — film franc. („Szpieg cesarza") odc. II. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „O niektórych tlenkach". 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Poezja krajowa XIX wieku". 10.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Włodzimierz Majakowski". 11.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — Z. Krasiński „Nieboska komedia". 12.45 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — Z. Krasiński „Nieboska komedia". 14.00 Matematyka w szkole: „Porównywanie, dodawanie i odejmowanie wielkości" cz. I. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Premiera miesiąca: „Oryle" — film muz. TVP. 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Poligon". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Człowiek, który spalił swoje zwłoki" — film fab. wł. 21.35 „Poza szkołą" — program społ. 22.05 „Ekspres nr 20". 22.35 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe i kronika Mistrzostw Polski w narciarstwie. 23.20 TV Technikum Rolnicze. Zoologia. 23.55 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt.

**Piątek 23.II.**

8.20 „Człowiek, który spalił swoje zwłoki" — film fab. wł. 9.55 Dla szkół: (kl. I-III lic.) Wychowanie techniczne — „Łączność radiowa". 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Złoty wiek Cesarstwa". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 13.35 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Prawdziwy człowiek" — film radz. 18.10 „Turystyka i wypoczynek". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Piosenka w żołnierskim płaszczu" — zespół Pieśni i Tańca Moskiewskiego Okręgu Wojskowego. 20.35 Panorama tygodnia. 21.15 Teatr TV: „Do wszystkich". 22.05 Dziennik. 22.25 Wiadomości sportowe i kronika Mistrzów Polski w narciarstwie.

**Sobota 24.II.**

8.00 „Noc Iguany" — film fab. (od lat 18). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Włochy". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Główne prawidłowości ewolucji". 14. 20 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Starcie" — Czy lubisz film? 17.10 Dla młodych widzów: „Zagrajmy w „L". 17.45 „Spotkania z przyrodą". 18.10 „Bieg po zdrowie". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Studio 13". 21.15 Dziennik. 21.35 Wiadomości sportowe i kronika Mistrzostw Polski w narciarstwie. 21.55 „Noc Iguany" — film fab. (od lat 18).




**Piątek, 16 lutego**

9.15 Szkoła szachowa. 11.45 Filmy dokument. 16.55 Eureka. 17.50 Spektakl. 19.00 Czas. 19.30 c.d. spektaklu. 20.45 Śpiewa W. Narejko.

**Sobota, 17 lutego**

7.00 Program dnia. 9.20 Mozaika muzyczna. 9.30 Przegląd międzynarodowy. 10.15 Stare filmy. 11.15 Transmisja sportowa. 14.00 Spotkania muzyczne. 14.45 W świecie zwierząt. 16.10 Film fab. 17.30 Hokej. „Dynamo" — „Skrzydła Rad" (3 tercja). 18.15 Reportaż o S. Prytyckim.

**Niedziela, 18 lutego**

8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 10.35 Spektakl dla dzieci. 12.35 Białe i czarne. 13.00 Sprawozdanie sportowe. 14.45 Klub filmowy. 16.15 „Piosenka-73". 16.45 Film fab. 18.10 Koncert. 18.35 Hokej. „Chemik" (Woskresiensk) — „Spartak" (Moskwa). 3 tercja.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

# НАПРЫКЛАД, СЕЛЬГАСГУРТОК У КОМАТАЎЦАХ

Выкарыстанне кожнага кавалачка зямельных угоддзяў і пастаяннае павышэнне прадукцыі маюць, несумненна, найбольшы ўплыў на тое, ці наш сімвалічны бохан хлеба будзе большы. Дзве гэтыя праблемы знаходзяцца ў цэнтры ўвагі ўлад. Таму вельмі добра сталася, што ў нашыя дні «нічыя зямля» знайшла сабе гаспадароў. Частку зямельных угоддзяў ПФЗ узялі ў арэнду або на ўласнасць паасобныя сяляне. Частку ўзялі ПГР-ы. Найбольш аднак за загаспадарванне іх узяліся сельскагаспадарчыя гурткі і МБМ-ы.

Вялікія абшары зямельных угоддзяў яшчэ нядаўна ляжалі аблогамі або былі слаба выкарыстаны. Зараз даюць высокія ўраджаі. Асабліва многа зямельных угоддзяў ПФЗ знаходзіцца ва ўсходняй частцы нашага ваяводства. Канкрэтны прыклад — вёска Коматаўцы над Свіслаччу, на мяжы з Савецкім Саюзам, у Беластоцкім павеце. Тут каля 80 дамоў. Нярэдка можна сустрэць зусім апусцелыя дамы. Моладзі мала, ды і тая намерана выехаць адсюль. Зямельныя ўгоддзі тут зусім не такія кепскія ці малаўрадлівыя. Нярэдка выступаюць зямельныя ўгоддзі чацвертага класа. Калі б была дастатковая колькасць маладых рук да працы, можна было б някепска гаспадарыць.

Сапраўдным гаспадаром у Коматаўцах становіцца мясцовы сельгасгурток. Гаспадарыць ён амаль на такім арэале, які знаходзіцца ва ўладанні ўсіх гаспадароў вёскі. Апрача таго многа дапамагае ў працы адзінокім або пажылым гаспадарам з самых Коматаўцаў, а таксама і трох іншых навакольных вёсак. Абсявае збожжавымі і іншымі культурамі каля 300 гектараў, а зямельныя ўгоддзі сялян займаюць не больш, чымсьці 400 гектараў. Сельгасгурток у Коматаўцах заснаваўся ў 1965 годзе. Загаспадарваннем зямельных угоддзяў ПФЗ заняўся на год пазней. Ураджаі атрымлівае значна большыя, чымсьці паасобныя сяляне.

Наша субяседніца бухгалтарша Тамара Гаспаровіч з немалым хваляваннем расказвае нам аб тым, як зараз пры дапамозе машын шпарка і непрыкметна праходзіць жніво або капанне бульбы. Яшчэ не так даўно мясцовыя сяляне жалі жыта сярпом, а жніво працягвалася амаль два тыдні. Працавалі яны на вузенькіх, часта вельмі доўгіх палосачках. Да жніва сем'і ішлі на ўвесь дзень, з запасам вады і яды, забіралі з сабой дзяцей.

Сёння коматаўскі сельгасгурток карыстаецца найбольш сучаснымі жніўнымі машынамі — камбайнамі «Бізонам» і «Вістуляй», 8 трактарамі з камплектамі падвесных машын, абмалотачнымі агрэгатамі, 12 сеўнікамі, пяццю снопавязалкамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. З усімі палявымі працамі спраўляецца хутка і спраўна. Машын аднак ніколі не замнога. Коматаўцы намераны купіць яшчэ адзін камбайн «Бізон», а нават тры трактары з камплектамі машын. Тады ўжо смела можна будзе ўзяцца за загаспадарванне дадатковых ПФЗ-аўскіх гектараў. Жыта сеюць яны зараз 117 гектараў, аўса і лубіну па сто і больш гектараў. З 1 гектара атрымліваюць па 18 і 20 цэнтнераў жыта нават на зямельных угоддзях V і VI класаў. Гэта дзякуючы высокім пастаўкам мінеральных угнаенняў — 220 кг NPK на 1 га. У мінулым годзе пасеялі яны 140 гектараў жыта. Дзяржаве сельгасгурток прадаў больш 330 тон жыта і аўса. Каб павялічыць колькасць зямельных угоддзяў, яны выкарчавалі 20 га. З гэтай ініцыятывай выступілі старшыня сельгасгуртка Ян Гедзіч і кіраўнік прадукцыі Аляксей Шапель.

Тон правільнай гаспадарнасці надае таксама мясцовы гурток вясковых гаспадынь. Жанчыны арганізуюць вясковыя дзяцінцы, вырошчваюць агародніну ў інспектах і яе мала яшчэ распаўсюджаныя сарты. У гэтым годзе яны намераны павялічыць гадоўлю курэй і качак. Коматаўскія жанчыны ахвотна ходзяць на заняткі кулінарных ці кравецкіх курсаў. У пачатку гэтага года яны арганізавалі навагодні баль, а зараз рыхтуюцца да святкавання Міжнароднага дня жанчын. Усе яны вельмі дружныя. Здавалася б, члены адной сям'і. У мінулым годзе ездзілі ў Варшаву, дзе знаёміліся з яе гістарычным мінулым і пабывалі ў тэатры.

*Янка Цялушэцкі*

*Працяг на стар. 4*

# ЛЕС І ЛЮДЗІ



веннямі, і аднаго чалавека затрымалі. Другі ж, што ішоў ззаду, скочыў у кусты і скрыўся. Відаць, папярэдзіў другі воз, бо не ўдалося нам яго злавіць. Затрыманы з дрэвам прасядзеў каля году часу ў турме. Так калісьці бывала. Цяпер усё змянілася. Людзі самі лес шануюць і да пакражаў не дапускаюць.

— А як сяляне сабе дровы ды дрэва на будовы здабываюць?

— Вельмі проста. Лясніцтва штогод вырубкі праводзіць або маладнякі працярэблівае. Вось пры ачыстцы спушчанага дрэва тоўстага галля і вярхоў можна ладных нарыхтаваць сабе, а пры працярэбліванні — нядрэннага маладняку. І нават зарабіць пры тэтым, бо за ўсё гэта мы плоцім. Заробак невялікі — 40 — 80 злотых за дзень, але дроў назапасіць можна колькі захочаш. Прадаем таксама будаўнічы матэрыял і гатовыя дровы. У мінулым годзе прадалі каля 70 кубаметраў будаўнічай драўніны і 300 кубаметраў дроў.

—Значыць, народная прымаўка: «Хто ў лесе не злодзей, той у хаце не гаспадар» у тутэйшых ваколіцах ужо забылася?

— Пачуць то яе можна, але людзі паводле яе не паступаюць і лес шануюць. Калі здарыцца які пажар лесу, з навакольных вёсак бягуць і стары і малы, каб тушыць. Нават дзеці, не толькі што дарослыя, асцерагаюцца, каб паблізу лесу вогнішча не раскладваць або, ідучы ці едучы цераз лес, агню не зацярушыць. Не пасуць таксама тайком хатняга дабытку на пасадках ці ў лесе. Па-першае, маладняку ляснога шкадуюць, а па-другое, пераканаліся, што з такой пашы многа малака не надоіш. Першакласныя меліяраваныя лугі ды пашы на штучных угнаеннях пазаклалі. Як і не кажы: падымаецца дабрабыт селяніна — узрастае і яго культура.

Пры нашым развітанні лясніччы Мікалай Бобрыкаў садзіўся ва ўласную новенькую «Шкоду» зялёнага, бы той хвойнічак-маладняк, колеру. Сабіраўся ехаць па жонку, якая закончыла свой дзень працы сакратара гміннай рады нарадовай у суседніх Шымках.

На вырубцы, каля паваленых векавых сосен, не было ўжо людзей і даўно расплыўся блакітна-белы дымок са старанна патушаных вогнішчаў.

*Мікалай Гайдук*
*Фота аўтара*

# У СЯМЯЦІЦКІМ „ЖУБРАБУЦЕ"

Фабрыка абутку ў Сямяцічах разгарнула сваю прадукцыю. У першай палове гэтага года адсюль выходзіць аж чатыры ўзоры жаночага абутку, залічанага да навінак на кірмашы ў Познані. За першае паўгоддзе 1973 г. з маркай сямяціцкага «Жубрабута» выйдзе каля 81 тыс. жаночага абутку-навінак.

Першых паставак у крамах трэба спадзявацца ўжо ў лютым. Будуць гэта летнія туфлі жоўтага колеру, абазначаныя ўзорам 152. На пачатку сакавіка павінны ўжо паявіцца ў крамах чырвона-белыя жаночыя «галантэркі», модныя, бо на тоўстай падашве, а ў маі павінны быць у продажы туфлі таксама на тоўстай падашве, трохколерныя.

Абутак з сямяціцкай фабрыкі пастаўляецца ва ўсе куткі Польшчы. Аднак у асноўным найбольш тут кантрактуюць гандлёўцы з Варшаўскага, Лодзінскага, Катавіцкага і Гданьскага ваяводстваў. Нашы беластоцкія гандлёўцы даволі асцярожныя. На першы квартал гэтага года заказалі яны 1,5 тыс. пар жаночага абутку, а на другі — 2,5 тыс. пар. Цяжка сказаць, хто тут мае рацыю. Адно вядома, што жаночы абутак з Сямяціч будзе каштаваць ад 230 да 250 зл., а яго практычную вартасць найлепш ацэняць самі жанчыны.

Жаночыя туфлі з Сямяціч вельмі спадабаліся савецкім жанчынам. Тамашні гандаль у першым паўгоддзі заказаў іх 20 тыс. пар. Запатрабаванне на многа большае, але фабрыка можа выканаць толькі такі заказ.

Трэба падкрэсліць, што ў асноўным абутак, аб якім вышэй гаварылі, апыніцца ў вясковых крамах.

*Тэкст і фота А. Карпюка.*



*Вось яны, модныя «галантэркі».*



*Тут сшываюцца ўсе паскі «галантэрак».*



*Туфель амаль гатовы, засталося наклеіць падошвы.*

**Беларуская ЛІТАРАТУРА**

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ — ЧАСТКА II.**

«Наша ніва» выходзіла ў Вільні ад 9 лістапада 1906 г. да 7 жніўня 1915 года. У сувязі з набліжэннем да Вільні нямецка-рускага фронту газета перастала выходзіць.

У адрозненні ад «Нашай долі», якая моцна падкрэслівала патрэбу вядзення класавай барацьбы, «Наша ніва» ў праграмным артыкуле гаварыла аб тым, што будзе служыць усяму беларускаму народу, усім яго класам. «Не, не думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу».

Такая была дэкларацыя. Дэкларацыя гэта была разлічана на царскія ўлады, на цэнзуру. Падкрэсліваючы абыякавасць да класавых праблем, выдаўцы ступлялі вастрыё ўрадавай чуйнасці. На практыцы «Наша ніва» ніколі не служыла панам і была тыповай сялянскай газетай.

Многія з публіцыстычных матэрыялаў, змешчаных у тыднёвіку, набліжалі яе да народніцтва або да праграмы польскага пазітывізму. Не абыходзячы найбольш істотных для свайго часу палітычных праблем, «Наша ніва» клала вялікі націск на народную асвету, уздым сельскагаспадарчых ведаў, мадэрнізацыю метадаў гаспадарання, адраджэнне беларускай нацыянальнай свядомасці. Многагадовы выдаўца «Нашай нівы» А. Луцкевіч наступным чынам ахарактарызаваў праграму тыднёвіка: «Мэтай сваёй «Наша ніва» назначыла працаваць дзеля культурнага і эканамічнага падняцця Беларускага краю і народу, развіваць у беларусаў нацыянальную свядомасць, будзіць пачуццё грамадзянскай і чалавечай годнасці і, крэпка злучыўшы ў адно раздзеленыя рэлігіяй дзве часці беларусаў, католікаў і праваслаўных, развіваць нацыянальную душу беларускага народу». (А. Навіна (А. Луцкевіч). На дарозе да новага жыцця).

На працягу ўсяго перыяду існавання «Наша ніва» пераадольвала страшэнныя матэрыяльныя цяжкасці. Брак матэрыяльных сродкаў, вялікія кошты працэсу друку, дарагая папера і параўнаўча невялікі тыраж газеты станавіліся перашкодамі, якія магла перамагчы толькі выключная энергія і ахвярнасць выдаўцоў і супрацоўнікаў тыднёвіка. Цікавыя факты, звязаныя з дзейнасцю і існаваннем «Нашай нівы», знаходзім у артыкуле Х. Імшэнніка: «Матэрыяльнае становішча «Нашай нівы», было заўсёды няпэўным, а ў 1907, 1908 г.г. даволі нават цяжкім. Выдаткі на выданне «Нашай нівы» былі даволі вялікія, калі прымем пад увагу, што яна выходзіла ў ліку 4500 экземпляраў, прычым 3000 выходзіла кірыліцай, 1500 лацінкай. Друкарня М. Кухты, дзе друкавалася «Наша ніва», падтрымоўвала яе, адчыняючы ёй доўгатрывалы крэдыт» (Х. Імшэннік, «Наша ніва» і дваццацігадовы юбілей беларускай нацыянальнай прэсы).

Пераканаўчыя доказы аб выключным убостве «Нашай нівы» і людзей, звязаных з гэтым тыднёвікам, знаходзім у лісце Янкі Купалы, высланым паэтам на адрас вядомага беларускага дзеяча з Пецярбурга Браніслава Эпімах-Шыпілы. Ліст гэты быў высланы Купалам у канцы кастрычніка 1914, гэта значыць, тады, калі Купала быў ужо галоўным рэдактарам «Нашай нівы». Купала прасіў у Б. Эпімах-Шыпілы грашовай дапамогі і характарызаваў сваё выключна цяжкае становішча: «Яшчэ і цяпер у мяне не топіцца ў печы і прыходзіцца калець і хварэць, бо няма за што купіць дроў, у дадатку, каб яго немач, мой кажух саўсім раскідаўся і не маю ў чым паказацца на вуліцы і злазіць у цэнзуру».

З увагі на матэрыяльныя цяжкасці ў 1912 годзе «Наша ніва» перайшла з двух шрыфтаў на адзін — кірыліцу.

Іншым чыннікам, які ў значнай ступені ўскладняў матэрыяльныя ўмовы «Нашай нівы», была царская цэнзура. Нягледзячы на тое, што палітычныя артыкулы тыднёвіка былі наогул добра прадуманыя і асцярожныя ў сваіх фармуліроўках, цэнзура не раз канфіскавала паасобныя нумары тыднёвіка. Не раз прычынай канфіскацыі былі літаратурныя творы, напрыклад, 14.III.1907 года быў канфіскаваны 8—9 нумар «Нашай нівы». Між іншым, з прычыны змяшчэння верша Я. Коласа «Расейскія образы». Цэнзар, матывіруючы канфіскацыю, пісаў, што верш Коласа «напамінае падпольныя пракламацыі».

Асабліва ў перыяд І сусветнай вайны цэнзура завастрыла крытэрыі ацэнак публіцыстыкі «Нашай нівы». У студзені 1915 года Віленскі часовы камітэт па справах друку скіраваў нават Янку Купалу як рэдактара «Нашай нівы» у суд.

Паэту аднак удалося пазбегчы судовага працэсу.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

